

Мікола Вяршынін

# НЕ сышліся характарамі



Мікола Вяршынін

# Не сышліся характарамі



Сатыра і гумар

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1977

Здараецца часам такое — хоць плач:
Пісьменнік чытае, а піша — чытач,
Хоць кожнаму можна зрабіць найпрасцей:
Сваёй бы работай займацца часцей.

# МЫ З ІМІ НЕДЗЕ СУСТРАКАЛІСЯ

## БАЙКІ, ФЕЛЬЕТОНЫ, ГУМАРЭСКІ



# НЕЗВЫЧАЙНЫ ЮБІЛЕЙ

Была ў Лясной Канторы завядзёнка:
Калі пра юбілей заходзіла гамонка,
То кожны нёс на густ свой пачастункі
І розныя рабіліся дарункі.

І вось пранеслася раптоўна чутка,
Што і ў Лісы дзень нараджэння хутка.
І Леў сабраў шырокую нараду.
(Ён быў заўсёды гэткім святам рады.)

— Сябры! Ліса ж у лесе — ветэранка.
Хай Вожык яблыкі цягае зранку,
Вавёрка — па кашу арэхаў і грыбоў,
Дзік — жалуды з-пад волатаў-дубоў.

Мядзведзь — больш мёду...
І яшчэ зазначу,
Што ў Салаўя адказная задача:
Спявак сярод ляснога ён народу,
Няхай складзе для юбілею оду...

На юбілеі Леў сказаў прамову
І Рыжую расхвальваў адмыслова...
Праныры той, Лісе, нібы царыцы,
Паднеслі залатыя завушніцы.

А Салавей, спявак мясцовы і паэт,
Здзівіў цудоўнай одай цэлы свет.
Была ў радках тых прыгажосць і сіла,
Што Ліска нават аж слязу пусціла.

Пасля — банкет. Там — рознае начальства,
Багаты стол, які не ўбачыш часта.
А Салаўю і тым звяркам, хто рангам невысокі,
Паставілі ўсяго... бярозавага соку.

Чаму ж Лісе была такая ўвага
І ўсім незразумелая павага?
Хоць меркаванняў тут было багата,
Галоўнае — што Леў Лісе быў сватам.

## АСЁЛ І НАВУКА

З работы звольніў Слон Каня...
Ў таго спыталі:
— Ты штодня
Без адпачынку спіну гнуў,
Заўсёды цяжкі воз цягнуў,
І хоць мінула маладосць,
Але ў цябе шчэ сіла ёсць.
Ці ты сварыўся са Сланом?..
— Я працаваў заўжды ў ахвоту,
Але прыняў Слон на работу
Асла... А у таго — дыплом...
Што можна пра Асла сказаць?
Ды тое, што ўсе знаюць самі:
Дзе трэба розумам узяць,
Стрыжэ Асёл вушамі.

Карысць вучонасці вядома.
Сэнс зразумейце гэтых слоў:
Ніхто з нас не супроць дыпломаў,
Ды мы супроць такіх Аслоў!

## РАЗМОВА З-ЗА СПІНЫ

Схаваўся Заяц за кусты,
А міма Воўк бяжыць.
Касы і кажа: — Слухай, ты!
Кажы, ці хочаш жыць?

Бяжы у вёску ды зайцам
Капусты прынясі,
Інакш хадзем са мной, а там
Пра літасць не прасі.

Здзівіўся Шэры: — Ты... пужаць?
Ды Заяц тут не змоўк:
— Хадзем за куст...
Хвілін праз пяць
Адтуль ледзь вылез Воўк.

Ля куста вось сеў Заяц зноў.
Глядзіць: Мядзведзь ідзе.
— Дай сакавітых качаноў,
А не — за мной хадзем!

Мядзведзь раз'юшан: — Дам разгон,
Нахабнік ты такі!
Праз пяць хвілін ледзь выпаўз ён
Ды чухае бакі.

Наўцёк пусціўся ён хутчэй
Далей ад той бяды.
А тут бяжыць Ліса яшчэ.
— Гэй, рыжая, сюды!

Капусту з вёскі мне нясі,—
Муштруе ён Лісу.
Яна заенчыла: — Касы,
Вядома, прынясу.

І моркві прыхаплю якраз,
Ты ж, Зайчык, дабрадзей.
Ліса заўважыла ў свой час:
За кустам Леў сядзеў.

Тады і сіла й галава,
Як маеш за спіною Льва.

# ДАКРЫТЫКАВАЎСЯ

Пайшлі ў рэдакцыю «Лясной газеты»
Сігналы пра Мядзведзевы сакрэты:
Што ён і хабар браў, і распусціўся,
Да розных махінацый дакаціўся.

Каб зразумець, чаму Мядзведзь такі стаў,
Паслалі Вожыка-фельетаніста,
Бо той дапяў вяршынь крытычнай славы
І спрытна разбіраў такія справы.

У фельетоне ён раскрыў удала,
Як зневажаў Мядзведзь звяроў нямала,
Круціў «раманы» з Ліскаю паціху,
Насіў дабро чужое да Бабрыхі.

Гаворкі шмат было ў лясным народзе,
Ды Зубр у тым быў з Вожыкам не згодзен:
— Што крытыку навёў ты — малайчына,
А крытыкуеш надта не па чыну.

І што ў Мядзведзя нешта не ў парадку,
Ты мне павінен далажыць спачатку.
Я сам без шуму факты ўсе б праверыў
І неабходныя прыняў бы меры.

Кіраўніка ты збэсціў нам такога,
І вэрхалу ўзнялося ў лесе многа.
Сарокі запляткарылі, Вавёркі,
Сярод зайцоў пайшлі аб тым гаворкі.

За парушэнні, што былі ў Мядзведзя,
Яго мы у загадзе папярэдзім.
Ну, а каб ты не быў занадта колкі,
На першы раз мы састрыжом іголкі!

## ВУЧОНЫ КІТ

Вучоны Кіт у інстытуце водным
Работай навуковай кіраваў.
З работнікамі добры быў, лагодны
І зранку ўсім заданні раздаваў:

— Ты, Акунёк, вады састаў даследуй,
Ты, Камбала, пра грунт мне звесткі дай.
Ты, Скумбрыйка, раслінны свет уведай,
Сяледчык, ты пра соль мне нагадай.

З'яўляўшыся на працу раз у месяц,
Надоўга Кіт у мора адплываў,—
Адсутнічаў ён на рабочым месцы.
(Яго ніхто, дарэчы, й не шукаў.)

А рыбкі працавалі без утомы,
Стараннасцю здзіўляючы сваёй.
І вынік працы быў усім вядомы —
Пісаў Кіт дысертацыю па ёй.

І розны клопат тыя рыбкі мелі,
І розны да работы быў настрой,
Бо рыбкі толькі водарасці елі,
Кіт ласаваўся чорнаю ікрой.

## РАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ

Іван Іванавіч унёс рацпрапанову:
Знайшоў ён спосаб прынцыпова новы
Дэталі зварваць лепш і больш трывала,
Што ўсіх даўно і вельмі хвалявала;

Для доследаў металу ж трэба многа,
І тут ужо на склад вядзе дарога.
Але загадчык склада кажа ўпарта:
— Дапамагу, як буду і сааўтар!

І зноў жа дослед — гэта ж не пацеха,
Нямала значыць і начальнік цэха:
Падтрымка трэба, што ні гавары.
Параілі:
— У сааўтары бяры!

У лабараторыю дэталі трэба несці,
Каб як хутчэй аналіз швоў правесці.
Там кажуць:
— Зробім добрую мы справу,
Ды з нашым шэфам раздзялі ты славу...

Рацпрапанова, зробленая ўмела,
Па ўсім заводзе дужа нашумела.
Калі чатыры аўтары ўзяліся,
Іван Іванавіч апошні быў у спісе.

А ганарар за тую распрацоўку
Размеркаваны быў даволі лоўка:

Хоць у сааўтараў і большая зарплата,
А нельга мала ім плаціць... па штату.

Сам аўтар жа не меў да грошай прагі,
І ён на гэта не звяртаў увагі.
Ў яго другая распрацоўка на прыкмеце.

Цікава, а ў сааўтары хто меціць?

2 Зак. 391

# АБ МОДЗЕ

Каторы год, як моду ў нас змянілі.
Прывыкнуць мы паспелі да яе:
З'явіліся ў дзяўчат спадніцы-міні —
Такая да кален не дастае.

І тая мода — кожны ўбачыць можа —
Не ўсім адпавядае і ідзе:
Адной дзяўчыне нават і прыгожа,
Другая ж — нібы чапля на вадзе.

Спрачаюцца падоўгу і натужна,
Якія лепш сукенкі для дзяўчат:
Хто за кароткія гарою дружна,
Другія ж — каб былі да самых пят.

Глядзіце самі, вы ўжо не маленькія,
Але не шкодзіць ісціну спазнаць:
Лягчэй да ног вам падабраць сукенкі,
Чым ногі
да сукенак
падганяць.

## ТУЛЯГІН НА РАБОЦЕ

Быў заўжды Тулягін млявы,
Ленасць меў да спраў.
Свой уласны шлях да славы
Ён, аднак, абраў.

Перакур. І тут задача:
Як зірнуў убок,
Першым майстра ён убачыў,
Скочыў за станок.

У сталоўку йсці не хоча,
Хоць абед настаў.
Зірк — начальнік цэха крочыць,—
Да станка зноў стаў.

А такога вось учынку
Не заўважыць грэх.
Нават быў у адпачынку,
Дык зайшоў у цэх.

Тут, глядзіць, ідзе дырэктар.
Да станка хутчэй!
Бразнуўся, узняўся з крэктам,
Іскаркі з вачэй!

Смех таварышаў ён слухаў,
Чэсны смех людзей.
Не прыводзіць паказуха
Да дабра нідзе.

## САМ СЯБЕ ПЕРАХІТРЫЎ

Сказаў галоўнаму ўрачу
Ён так: — Даведку ўзяць хачу
Аб тым, што моцна захварэў,
Я ўжо тры дні не піў, не еў,
Але, на жаль, не маю сведкаў,
Дык атрымаць хачу даведку,
Каб не паставілі прагулы,
Вы ж чалавек, я знаю, чулы.

Калі ж прайшоў ён медагляд,
Быў выніку не вельмі рад,
Бо добра і гуляў і еў
І ўвесь свой век хвароб не меў.
Ён енчыць: — Доктар, дайце, родны,
Каб мой начальнік хоць маўчаў,
Даведку аб любой хваробе,
Мне важны подпіс урача.

Тут усміхнуўся ўрач таму:
— Даведку выдайце яму.
Калі ўсё роўна ад чаго,
Правучым мы як след яго!

Даведку майстру той прынёс,
А сам як быццам бы падрос;
Наўкол стаіць рабочых многа,
І раптам чуе дружны рогат:
— Ну і здараюцца прыгоды!
Няйначай ты хадзіў на роды,
Тут вынік змяну вельмі горкі:
Даведка ж, глянь, ад акушоркі!

## АБ ПРАФЕСІЙНЫХ ЗВЫЧКАХ І ХАРАКТАРАХ

Распараджаецца па-свойму кожны часам,
Не ўсе, вядома, спосабам адным.
Сёй-той паблытае гарэлку з квасам;
Пажарнік і пячнік нап'юцца «ў дым».

Шавец «у сцельку» набярэцца зранку,
Рыбак, як жаба, квакне ў трыснягу.
Шафёр «пад мухай» скруціцца «ў баранку»,
А конюх аж сагнецца «у дугу».

П'е страхагент, страхуючыся трошкі,
Абходчык — «у дрызіну» на хаду,
«Нарэжацца» цясляр нярэдка «ў дошку»,
А вадалаз «аддасць канцы» ў ваду.

Хабарнік дапіваецца да ручкі,
А злодзей абкрадае ўласны дом,
Ілгун гатоў хлуснёю ўсіх замучыць,
Лайдак засне — знямогся за сталом.

Пакуль паперкі у вачах заскачуць,
Гатовы піць зацяты бюракрат,
А падхалім ад радасці аж плача:
Начальніка спаіць заўжды ён рад.

Не ўсе, вядома, п'юць і не заўсёды,
Хто ж п'е —
знаходзіць шмат зачэпак і прычын,
Бо п'яніцы — яны адной пароды:
Ўсе роўныя, фінал у іх адзін.

# РЭДКІ СПОСАБ ПАВЫШЭННЯ

Быў прарабам на будоўлі
Шмат гадоў Пятроў Ігнат.
План завальваў вельмі доўга,
Клопатаў было з ім шмат.

Часам «скруціць» ён зарплату,
То ў рабоце зробіць брак,
А пазбавіцца Ігната
Ў трэсце не маглі ніяк.

Бо напіша скаргаў многа,
А камісіям хто рад?
Часта ж проста з-за нічога
У мясцком бяжыць Ігнат.

Непрыемнасці заўсёды —
Ад Ігната аднаго;
Каб рабіў ён меней шкоды,
Дык... павысілі яго.

Вось ужо аддзелам кадраў
Кіраваў Ігнат Пятроў,
Ды па звычцы ўсё развальваў,
Наламаў і там ён дроў.

Цяжка з ім было змагацца:
Нарабіць ён гвалту мог,
Бо прывык жа павышацца;
Ды выпадак дапамог.

Кіраўнік другога трэста
Тут на пенсію пайшоў.
Вось тады на гэта месца
Быў і «вылучан» Пятроў.

Ён хацеў і ў глаўк пралезці —
Думаў, будзе спакайней...
За развал знялі нарэшце.
. . . . . . .
А не шкодзіла б — раней.

## РАЗУМЕЕ НАТА ЎСЁ

— Ната ўсё рабіць умее,
Ўсё на свеце разумее,
Выпускніца ж нездарма!
— Што ж, дзяўчына, ты умееш,
Што, скажы, ты разумееш?
— Есці я магу сама!
Зарабляць жа мне не трэба,
Ёсць і хлеб, і ёсць да хлеба,
Вось таму я смелая.
Што я — «золатка» у мамы
І у татачкі таксама,
Добра зразумела я.

## ПЕРАГРУЗІЛІ

Выклікаюць раз Нупрэя,
Прапануюць: — Выручай:
Падмацуй ты,— ёсць ідэя,—
Таварыства «Ураджай».

— Позна гэтым мне займацца,
Сілы ўжо ў мяне няма.
— Нецяжкая гэта праца,
Спорт, дзядуля, падтрымай!

Не забыў ён словы тыя...
— Зноў спатрэбіўся нам ты ж:
У здаровым калектыве
Узначаль «Чырвоны крыж».

Дзед быў добры па натуры...
— Даручэнне хочам даць:
Нельга помнікі культуры
Без аховы пакідаць.

Тут не скончаны прыгоды:
— Таварыства ёсць яшчэ
Ратаваць людзей на водах,
Уступай, Нупрэй, хутчэй.

— Ды навокал, гляньце, людзі,
Ні ракі, ні ручайка.
— Не бядуй, няма, дык будзе
І канава, і рака.

І пайшло далей: без згоды
Ўсклалі ўсё на аднаго,
Каб ахоўваў і прыроду,
«Заахвоцілі» яго.

Дзед на ўсё махнуў рукою:
Лепш нічога не рабіць.
Раз становішча такое,
Усё роўна будуць «біць».

Ад такіх таварышоў
Ён на пенсію пайшоў.

## УЧАСТКОВЫ НА ВЯСЕЛЛІ

Не на службе я сягоння, а ў гасцях.
Набыло вяселле добры ўжо размах,
Віншавалі ўсе так шчыра маладых,
Прывітаць і я хацеў бы зараз іх.

У жыцці глядзіце вы, дзе правы бок,
Хто парушыць, той хай сцерпіць і папрок.
Непрыемнасцей каб менш у вас было,
Не ідзіце на чырвонае святло.

І машыну ўласную набудзьце вы,
Але здайце ўсё ж спачатку на правы...
Хай да чаркі не будзе ласы муж,
Спакайней сям'і так будзе і яму ж.

І суседзяў паважайце вы ўвесь час,
Каб не скардзіліся нам яны на вас.
На вяселле не па службе я прыйшоў,
Не ўжывайце ў спрэчках рук і лішніх слоў.

З кожным днём расце хай радасць удвая,
Мець шмат дзетак шчыра вам жадаю я.
Усе прафесіі ў нас добрыя цяпер.
Хай жа будзе ў вас і міліцыянер.

Муж кіруе, і таму я нездарма
Жэзл дару яму. Мацней яго трымай!
А каб жоначку не крыўдзіў ты, браток,
Падару ёй свой залівісты свісток!

## ПАСТКА ПАДВЯЛА

Вучоны працу напісаў,
І пастку ён сканструяваў,
Каб лепш знішчала грызуноў,
Аб чым расказваў зноў і зноў.

А выпрабаваць у калгас
Прыехаў сам праз нейкі час.
З сабою пастак цэлы воз
Для свірнаў з горада прывёз.

Адразу ж для прынады ён
Устанавіў і рацыён
З найлепшай самай каўбасы,
І сала выпісаў, і сыр.

З той «навуковай» барацьбы
І вынік адпаведны быў:
Рос статак пацукоў на жах,
А збожжа меншала ў мяшках.

Вучоны захапіўся так,
Што свой партфель згубіў, бядак.

Калі ж у свіран зноў зайшоў,
То вынік працы быў такі:
Пагрызены партфель знайшоў
І дысертацыі шматкі.

## МНЕ Б ТАКОГА ЖАНІХА...

Вельмі б моцна пакахала
Жаніха такога,
Каб гадоў было не мала
І не вельмі многа.

Каб не надта быў прыгожы,
Ды не касавокі.
Дужы быў. Насіць ён зможа
Мяне пад аблокі.

Хай зусім не выпівае,
Будзе й так вясёлы.
У рабоце паспявае,
Спрытны і не кволы.

І не трэба мне, каб ён
Меў сваю машыну,
Разлучацца на шмат дзён
Не шукаў прычыны.

Каб не быў раўнівы дужа,—
Думаю я гэтак,—
Каб былі ўсе думкі ў мужа
Пра мяне, пра дзетак.

Хай жыве ў маёй кватэры —
Спакайнейшай буду:
Раззлаваўшыся праз меру,
Не ўцячэ нікуды.

Вось які мне трэба хлопец:
Возьме — не здзіўлюся,
А як смеласці не хопіць —
Я на ім жанюся!

## ПРЫГОДЫ ДАЧНІКА

Дачу ў прыгарадзе маю:
Ёсць гарод, шмат яблынь, груш;
Для работы там трымаю
Саламяны капялюш.

Дачу ўлетку рамантую,
Парыць — хоць ты лезь пад душ,
І ад спёкі тут ратуе
Саламяны капялюш.

Паглядзець узімку дачу
Просіць жонка: — З'ездзі, муж!
І задаў тады задачу
Саламяны капялюш.

З'ездзіў я ды зноў дахаты,
Шлях няблізкі, дык пайду ж.
Замест шапкі зухавата
Начапіў я капялюш.

Тут віхура, холад дзікі,
Не было шчэ гэткіх сцюж.
Каб згарэў ты разам з дзіркай,
Саламяны капялюш.

Хутка ўжо чыгунка будзе,
Дык варочацца чаму ж?
Ды калі ж убачаць людзі,
Прасмяюць мой капялюш.

Скінуць нельга з той прычыны —
Лысы, змерзну, дый нядуж.
Так стаяў я з паўгадзіны,
Праклінаў свой капялюш.

Што ж, вярнуўся, бо нялоўка
Галаву студзіць сваю ж,
І са злосці ўзяў рыдлёўку,
Закапаў свой капялюш.

## Я І БАРАДА МАЯ

Мой узрост за многіх меншы,
З модай я ў нагу іду.
І каб быў за ўсіх маднейшы,
Адпусціў я бараду.

Ды зрабілася жахліва:
Пазнаюць мяне не ўсе.
Хто і ведаў — што за дзіва —
Абыходзяць пакрысе.

Як у госці я прыехаў,
Запыталі: — Ты ці не?
А пасля было шмат смеху:
Падмянілі мо мяне?

А каханая дзяўчына
Мне сказала: — Не прыйду.
Цалавацца немагчыма,
Маладзейшага знайду!

Я галюся ўжо заўсёды,
Бо была адна нуда,
І ва ўсіх маіх прыгодах
Вінавата барада.

## БЛАГОЕ ПАДАБЕНСТВА

Па вуліцы ішоў дзяцюк зарослы
(Іх клічуць валасацікамі ў нас).
Кінула бабуля позірк востры
Ды побач тупала, пыталася ўвесь час:

— Вы — бацюшка? Прабачце, што пытаю,—
І хуценька перахрысціла лоб.
Здзівіўся той і аж змяніўся з твару
Ды буркнуў: — Не, бабуля, я не поп!

— Дык, можа, ты геолагам завешся
І жыў сярод балота ці ў тайзе,
А там, вядома, дзе ж ты падстрыжэшся?
Ён адказаў: — Ды я не быў нідзе.

— Э-э, ахінуў цябе, напэўна, смутак
І за сабой не сочыш нездарма:
Відаць, сядзеў, бядак, пятнаццаць сутак?..
Той злосна кінуў: — Села б ты сама!

— Такіх, як ты, дальбог, не сустракала,
Каб іх спужацца можна сярод дня.
Ды дзе ты так зарос, бядак няўдалы,
Мо грыву ты пазычыў у каня?

Во пачакай хвілiначку: здаецца,
Успомніла я зараз акурат:
Я ведаю, хто ты
І тваё месца —
На полі пудзілам, яму ты — родны брат.

## ДЫПЛАМАВАНАЯ ЖОНКА

Як яна мяне кахала! —
Быў чароўны сон...
Пажаніліся, дык стала
Не жыццё — прыгон.

Ганарылася дыпломам,
Я ж абед варыў.
Хоць вылежвалася дома,
Кветкі ёй дарыў.

Прыгнятаць мяне ўзялася —
Скончыўся камфорт!
Дбай ужо сама тым часам,
Гэта ж — не курорт.

І калі дзіця заплача,
Вытрымку раблю,
Жонка ў лямант: — Людзі бачаць —
Маладосць гублю!

— Не,— кажу,— рашай адразу:
Ці сям'ю глядзі,
Ці інакш з дыпломам разам
Да бацькоў ідзі.

Ўсё цяпер мы робім самі —
Лепш і спакайней,
А яна, між тым, часамі
Дорыць кветкі мне.

3*

## ЗАКАХАНЫ САТЫРЫК

Я шчаслівай часінай
Стрэў цябе у жыцці,
Ты — як мара — дзяўчына,
Лепшай век не знайсці.

Стук тваіх чаравічкаў
Чутны ў сэрцы даўно.
Памяняў я ўсе звычкі
За каханне адно.

А дзявочыя вочы
Губяць волю маю,
Зробяць, што толькі хочуць,
Супраць іх не ўстаю.

Вусны — казка прыроды
І гарацць, быццам жар,
Узнімаюць заўсёды
Ў маім сэрцы пажар.

Дзіўны голас чаруе,
Паланіць кожны гук.
Прападу я, згару я
Ад салодкіх тых мук.

Ці то радасць сягоння,
Ці спаткаў я тугу?
Эх, здаюся ў палон я,
Без цябе не магу.

І скажу без патайкі,
Што праз гэта гатоў
Я даўно кінуць байкі
За такую любоў!

# Па каліву смеху

мініяцюры,
каламбуры



## КАНЕЦ ЦЫТАТЧЫКА

Ён у дакладах ужываць
Любіў цытат заўжды так многа,
Што сам сябе стаў цытаваць
І — абакраў... сябе самога.

## УЛАСНАЕ РАЗУМЕННЕ

— Мацуйся! — кажам мы на развітанне,
Бо лічым слабасць найвялікшым злом.
Ён зразумеў па-свойму пажаданне
І мацаваўся толькі... за сталом.

## «АТЭІСТ»

Крыў бога праз навукі прызму
Так, што чырвоны ўвесь зрабіўся.
Экзамен здаў па атэізму
І, выйшаўшы... перахрысціўся.

## «НЕ ДАРМАЕД»

Не завіце мяне дармаедам,
Будзе ганьба для ўсіх сваякоў,
Бо жыву я, каб кожны з вас ведаў,
На працоўныя сродкі... бацькоў.

## «ПРАЦАЎНІК»

— Для гультайства дзе прычыны? —
Кожны з нас нярэдка чуе.
— Праца — лепшы адпачынак,—
Кажа той, хто не працуе.

## ПРЫНЦЫП БЮРАКРАТА

Як да мяне папера прыйдзе,
То, што б мне ні рабілі,
Пакуль не вылежыцца з тыдзень,
Яна не мае сілы.

## «ЗВЫШЗАНЯТАСЦЬ»

Вітацца ёсць манера
Калі і як, і з кім:
Не глянуўшы на дзверы,
Уткнуўшыся ў паперы,
Хоць жонка перад ім.

## «СЛАБАЯ» ПАМЯЦЬ

Пасля палучкі колькі дзён
На працу забываўся ён,
А каб забыўся вось хоць раз
Палучку атрымаць у час?!

## ЯГО ТВАР

Гаварыць ён меў ахвоту,
Што было не ў навіну,
За абедам — пра работу,
На рабоце — пра гульню.

## КАЛІ БРАК НА ШВЕЙНАЙ ФАБРЫЦЫ

Прадукцыю давалі там штомесяц,
План гналі, за працэнты моцна браліся...
Але, каб вырабы на пудзіла павесіць,
Вароны пэўна б папужаліся.

## РАЗБУДЖАНАЕ САМАЛЮБСТВА

Яго адзначылі аднойчы —
Заганарыўся, проста жах.
Ні з кім вітацца больш не хоча,
Бо вырас... у сваіх вачах.

## ПАДАРАВАЎ... САБЕ

— Ты што купіў сваёй нявесце?
— Ёй попельніцу падару.
— Яна ж не курыць, што ты, ўрэшце?
— Але ж затое я куру!

## «СЦІПЛЫ»

Саромеўся ўперадзе быць,
Застацца ў ценю быў рады,
Таму ён у справах любых
У першых радах быў... ззаду.

## ВОСЬ ДЫК ДРУЖЫННІКІ

— Хуліганы гуляюць па парку,
Забярыце — наробяць бяды.
— Дагуляюцца, схопяць па карку,
Прывядзіце хутчэй іх сюды!

## ЗВЫШГАНАРЛІВАСЦЬ

Як павысілі ў чыне яго,
Напісалі аб ім у газеце,
Дык ён сам сябе пасля таго
Перастаў пазнаваць на партрэце.

## «АМАТАР» ФУТБОЛА

— Як скончыўся футбол учора,
Які там вынік быў і лік?
— Канец такі: гарэлкі мора,
А лік, вядома, на траіх.

## «УЮН»

У шальмаўстве заўжды меў рост:
Падменіць хоць каго,
І ні за жабры, ні за хвост
Не ухапіць яго.

## «СПРЫНТЭР»

Спорт незвычайны
Любіць адчайна:
Бегаць ад дома
Да гастранома.

## САМАПРАВЕРКА МЕЛАНХОЛІКА

Некролагі ён праглядаў
(Жыццё ж бяжыць, цячэ),
Бо ўпэўніцца ўвесь час жадаў,
Што сам жыве яшчэ.

## ПЕСЕНЬКА ЗЛОДЗЕЯ

Бяру нібыта ўласнае,
Цягну ў гняздо сваё
Па прынцыпу сучаснаму:
Усё наўкол — маё.

## ЗВЫШПАДХАЛІМАЖ

Даклад начальнік скончыў і пытае:
— Магчыма, думку іншую хто мае?
Вось, вы, скажыце прама пры народзе,
— Так, маю, толькі... з ёю я не згодзен.

## РАЗМОВА ЛАЙДАКОЎ

Прынцып ёсць у нас адзіны:
Колькі ж можна нам магчы?
Гаманілі дзве гадзіны,
Трэба трохі й адпачыць.

## НЕ ДАЧАКАЎСЯ

Хацеў рашыць з начальствам справу хутка,
Прыйшоў — а там ідзе пяціхвілінутка.
Са злосцю ён пайшоў не без прычыны:
Не дачакаўся нават праз гадзіну.

## ЗВЫШСАРАМЛІВАСЦЬ

Размаўляў з задавальненнем,
Толькі ў грубым тоне.
А прасіў жа прабачэння
Ён... па тэлефоне.

## РАБОТА ПАЙШЛА НА КАРЫСЦЬ

Рэвізорам год ці два
Па сталовых працаваў,
І кашуль ужо цяпер
Ні адзін не йдзе памер
(Бо не сходзіцца каўнер).

## СІМУЛЯНТ

У аптэку ён імчыцца,
А здароў — хоць лес валіць.
— Ад чаго б мне палячыцца,
Што мне заўтра забаліць?

## СВОЙ ШЛЯХ У НАВУКУ

— Ў інстытут я паступаю,
Рыхтаваўся дзень у дзень.
— А вось я аб тым не дбаю
І праскочу: я ж — спартсмен!

## ПРЫНЦЫП ПЕРАСТРАХОЎШЧЫКА

Давярацца вам не раю
І нікому, і нідзе.
Калі я не давяраю,
Дык ніхто й не падвядзе.

## НЯЎЖЫЎЧЫВЫ ХАРАКТАР

Мне рахманасць не пасуе,
І цярпець я не прывык:
Перш, чым хто мне шпільку суне,
Я таму падсуну цвік.

## ПАСТАЯНСТВА І ПЕРАМЕНЫ

Мужчына халасты або жанаты
Заўсёды — леў. Мяняюцца ж дзяўчаты.
Так хутка можа іншая змяніцца:
Спачатку — кошачка, пасля — тыгрыца.

## ЖОНКА ПА РАЗЛІКУ

Не люблю жыццёвых бедаў,
Вазьму жонку для парадку
З адукацыяй сярэдняй
І вышэйшага дастатку.

## «СУЦЕШЫЎ»

— Я хворы быў, мяне ты не наведаў.
— Памылку выпраўлю я ў іншы час.
Аб тым, што захварэў ты, я не ведаў,
Бог дасць, ляжаў ты не апошні раз!

## БЯДА ХАБАРНІКА

За хабар кепскі выгляд меў:
Усё зрабіць хацеў трывала,
Аднак, хоць даць ён і сумеў,
Не разлічыў... даў вельмі мала.

## КОШТ ПАКУПКІ

За тры рублі галёшы набылі,
За трыццаць жа вясёлыя былі.
Калі ішлі дахаты, да таго ж
Згубілі ўпоцемках адзін галёш.

## КАНЕЦ ЭГАІСТА

Забыўся ён на калектыў,
Была ў яго свая дарога.
Нікога ў свеце не любіў,
Бо палюбіў... сябе самога.

## ВАЖНАЯ ПРЫКМЕТА

Адкрыты смех — шырокая натура,
Не будзе дрэнны чалавек такі.
А кепскі чалавек і ў думках хмуры.
Ён нават і смяецца з-пад рукі.

## НЕ ДАСЫПАЕ

— Так шмат работы — кінуць рада б:
Недасыпаю, аж проста мука!
А ў магазіне глядзяць, і праўда:
Не дасыпае... муку і цукар.

## УПЕРШЫНЮ НА ФУТБОЛЕ

Прыйшоў мужчына на футбол,
Крычыць: — Ура! Забілі гол.
Сусед штурхнуў яго пад бок:
— Забілі ж нашым, галубок!

## НЕЗВЫЧАЙНАЕ ЗАПРАШЭННЕ

Да мяне часцей заходзь,
Будзеш самы лепшы госць;
Зойдзеш са сваім дабром —
Станеш і гаспадаром.

## ПРА СЛУЖБОВУЮ МАШЫНУ

Начальнік той машыну меў
І карыстацца ёй умеў:
Даваў сябрам, знаёмым, дзеткам,
Па службе нават ездзіў... зрэдку.

## ВЫШЭЙШЫ ГАТУНАК

Арцель выконвала заказ
На свой манер, і кожны раз
Рабілі ўсё не абы-як:
Вышэйшага гатунку... брак.

## ПУСТАЗВОН

— Нас клічуць новыя дарогі,
У кватэры цёплай не сядзіцца,
Нам дайце пошукі, трывогі!
І ехаў... з вёскі — у сталіцу.

## МАЛА ЧАГО НЕ ХАПАЕ

Не, латарэя — не міраж,
Купляць білеты ўсім я раю.
Мне толькі б выйграць на гараж,
А на машыну... назбіраю.

## ГУМАРЫСТ НАВЫВАРАТ

Суровы быў: за жарт які
Ён набіваў усім бакі,
А на судзе стаў смеху варты:
Імкнуўся звесці ўсё на жарты.

## ПРЫНЦЫП ПРАГУЛЬШЧЫКА

— Працавалі за цябе мы,
Прагуляў ты ўжо не раз.
— Лаецеся вы дарэмна:
Паабедаю за вас!

## СТРАТА ГОЛАСУ

Страшэнна любіць ён футбол,
«Хварэе» так за кожны гол,
Што жонка потым проста ў горы:
Сіпіць ён з месяц — не гаворыць.

## ЗВЫШПРЫНЦЫПОВАСЦЬ

Быў шлюб. Збіраліся вяселле справіць:
Нявеста ў маі, а жаніх — у чэрвені,
І так сур'ёзна падышлі да справы,
Што развяліся — не сышліся ў тэрміне.

## ХІТРЫКІ АБІБОКА

На рабоце сонны будзе,
Менш зрабіць — задума ўся.
Калі ж соннага разбудзяць,
Кажа: — Я задумаўся!

## І Ў ЛЮДЗЕЙ БЫВАЕ ТАК

Ліса любіла нагінацца,
Ды... у паклонах, а не ў працы.
Асёл жа любіць упірацца...
Таксама толькі б не старацца.

## КАЛІ Ў ВАЧАХ ДВАІЦЦА

Ён выпіўшы ехаў, і раптам узніклі
Наперадзе два матацыклы.
Хацеў паміж імі праехаць якраз,
А там аказаўся... МАЗ.

## ПУСТАСЛОЎ

Надта ўжо многа любіў гаманіць:
Як завядзецца — ніяк не спыніць.
Словам прыкрыцца любіў нездарма:
Словам прасторна, а думак няма.

## ПАРАДОКС У НАВУЦЫ

Ён лічыць, што ў навуцы — бог,
А сам яе штурхае ў бок,
Бо ўперад — здольнасцей не мае,
Назад — начальства прытрымае.

## МАРАЛЬ ЗЛОДЗЕЯ

Балюча бачыць без нагляду рэчы,
Мне іх шкада зусім па-чалавечы.
Я ж рупны, я знайду ім прымяненне:
Ім будзе ўтульней у маёй кішэні.

## ЛЁС КАМАНДЗІРОВАНАГА

Мне самому невядома
Зноў, куды падамся ў шлях...
Я ў гасцініцах як дома,
Дома ж я — нібы ў гасцях.

## НЯЎДАЧА ПЕРАСТРАХОЎШЧЫКА

Быў асцярожны — проста дзіва,
Усюды вытрымкай хваліўся.
Заўжды па нітачцы хадзіў ён.
Ды пад канец... усё ж зваліўся.

## МАРА ДАРМАЕДА

Навошта зараз працаваць з задышкай?
У будучыню смела мы ідзём.
У камунізм жа я прыйду не з лыжкай,
А не інакш як з ладным чарпаком.

## БРАКАРОБ

Быў рабоце так адданы,
Добра ўсім вядомы!
За ўвесь цэх выконваў план ён...
Па металалому.

4*

## ПІЖОН

— Прычоска доўгая твая —
Звычайная банальнасць.
— Але ж затое маю я
...індывідуальнасць.

## ВЯСЁЛЫ ЗАГАДЧЫК СТАЛОЎКІ

— З чаго ў вас смажацца катлеты? —
Пытаюцца кліенты часам.
— Цыбуля, хлеб,— яшчэ ну... гэта —
Прыправы і... бывае мяса.

## ЗРУЧНАЕ ВЫЙСЦЕ

Хлусня не ў модзе ў нашы дні,
А праўда колкая даволі.
Дык ён нікому не маніў
І... праўды не казаў ніколі.

## СКАРГА ЛЕКТАРА-ВАДАЛЕЯ

— Прабачце, нешта ў горле перасохла.
Хачу напіцца, ды няма вады.
— Калі б канспект ваш выкруціць хоць трохі,
Напіцца ўсім хапіла б нам тады!

## РОЗДУМ ГУЛЬТАЯ

У жыцці заўжды дакукі —
Кідайся ва ўсе бакі:
Ад работы ныюць рукі,
А ад ленасці — бакі.

## РАЗМОВА ПА ТЭЛЕФОНЕ

Заўсёды рад з табой сустрэцца,
Во і цяпер званю. Але-ё!
Як сам, як жонка, цешча, дзеці?
Пазыч, браток, мне пяць рублёў.

## НЫЦІК

Кволы выгляд вечна мае,
Кіслы твар у бедака,
Хоць за хвост ён утрымае
Трохгадовага быка.

## ПРЫСТАСАВАЎСЯ

— Ты, пэўна, адпачынак меў?
— Што ты, браце!
— Дзе ж так моцна загарэў?
— Ды на працы!

## ПА ПТУШЦЫ І ПАЛЁТ

Любіла Муха так хваліцца ўсім бясконца:
«За птушкамі і я магу ляцець да сонца».
Заўважыў мудра Жук: — Я б паляцеў таксама,
Ды нам з табой палёт увесь ля гнойнай ямы.

## «ВЫНАХОДНІК»

У вечным пошуку заўсёды,
Інакш ніяк не можа жыць.
Ён вынаходзіць падыходы
Туды, дзе дрэнна што ляжыць.

## АДВАРОТНАЕ РАЗУМЕННЕ

Ён так казаў, калі яго хвалілі:
— Люблю, як рэжуць праўду-матку ў вочы!
Інакш казаў да крытыкі ахвочым:
— Я не люблю страшэнна падхалімаў!
Ён крытыкай дапамагчы мне хоча!

## НЯЎДАЧА АМАТАРАЎ ХАБАРУ

Адзін — аж есці перастаў,
Другі — увесь аж ссох.
Адзін — што хабару не ўзяў,
Другі — што даць не змог.

## «ПРЫЗНАННЕ» КРЫТЫКІ

Няма ад крытыкі бяды,
Аб гэтым я не забываю
І выправіцца рад заўжды,
Ды... вінаваты не бываю.

## ПАПАЎСЯ

Бег Воўк за Зайцам, ды самлеў:
Насустрач выскачыў сам Леў.

## ЗВЫШПІЛЬНАСЦЬ

Хоць склад быў толькі смеху варты,
Не абышліся ўсё ж без варты.

## «ВАЖНАЯ» ПРАБЛЕМА

Яму заўжды было цікава,
Што здаравей: ці спірт, ці кава.

## ПРАФЕСІЙНАЯ ЗВЫЧКА

У яго другой няма тэматыкі:
— Што было б, калі б не матэматыкі!

## ХІТРЫ ХОД І ШМАТ ГОД

— Ну і задаў npapaб задачу:
Пяць год за што яму? — За дачу!

## ПРОСТЫ РЭЦЭПТ АД ПАЎНАТЫ

Каб трохі меней еў ды спаў,
Яго жывот адразу б спаў.

## БАЯЗЛІВЕЦ

Сябе паводзіў вельмі бойка,
Ды ўцёк, як пачалася бойка.

## ЖЫЦЦЁВЫ ПРЫНЦЫП

Каб слава аб табе гучала век,
Ты перш за ўсё будзь добры чалавек.

## ПАРТРЭТ САТЫРЫКА

Калі пачнеш чытаць газеты,
Глядзіш часопісы не раз,
Паэтаў-лірыкаў партрэты
Там сустракаюцца ўвесь час,

Як і празаікаў, вядома,
І ім пашана нездарма.
Іх біяграфіі знаёмы,
А пра сатырыкаў — няма.

Мяне здзіўляла гэта дзіва,
Я нездаволен быў падчас.
— За што,— спытаў,— несправядліва
Так абыходзіце вы нас?

А мне сказалі рэч такую:
— Не пішам пра цябе таму,
Каб той, каго ты крытыкуеш,
Не ведаў, помсціць бы каму.

Менш пра сваю ты думай славу,
Сваім калегам так скажы:
У барацьбе за нашу справу
Вы на пярэднім рубяжы.

Сатырык, уставай гарою,
Каб быў чысцейшым, лепшым свет.
Выводзячы антыгерояў,
Ствараеш ты і свой партрэт.

## «ПРАБІЎНЫ» АЎТАР

Мае голас вельмі звонкі
І заводзіць ім у зман:
Напісаў адну старонку,
Ну, а шуму на... раман.

## ПАСПЕШЛІВЫ РАЗЛІК

За тры начы паэму напісаў
І трызніў лаўрамі паэта,
У выдавецтва рукапіс паслаў,
Параілі: — Нясі ў насценгазету.

## ...А ТЫТУНЬ — ПААСОБКУ

Паэт развёўся з паэтэсай
Пасля ідыліі сумеснай:
— Жыццё такое хай міне!
Хоць жонкаю была нядрэннай,
Ды падсякала мне карэнне,
Бо... крала вобразы ў мяне.

## ШТО ЗА ЗАНЯТАК!

Спаткаў пісьменнік сябра неяк,
І той пытаецца ў яго:
— Ты кім працуеш?
— Я пісьменнік.
— Ты толькі пішаш? І ўсяго?!

## ЗАМКНЁНАЕ КОЛА

Ён прынёс аднойчы вершы,
І такі быў водгук першы:
— Пішаш проста, толькі штосьці
У вершах мала прыгажосці.
А пасля перапрацоўкі
Быў адказ адмоўны зноўку:
— Так прыгожа пішаш ты,
Толькі... мала прастаты.

## СОН ПАЭТА

Калі натхнення светлы час міне,
Калі замучыць вечны пошук тэмы,
То часам мрояцца паэту ў сне
Урыўкі з ненапісанай паэмы.

## ГАЛОЎНАЯ ЎМОВА

— Калі лепш пішацца? — пытаюць чытачы.—
Зімой ці ўлетку, ўдзень або ўначы?
...Пісаць тады няцяжка, без сумнення,
Калі не трэба пазычаць натхнення.

## ПРЫНЦЫП ТВОРЧАСЦІ

Пішы, як маўчаць немагчыма,
І правіла цвёрда трымайся:
Паэзія — нібы дзяўчына,
Не любіш — дык не займайся!

## АД ЗДАЧЫ ДА ВЫДАННЯ

Ён гонар меў, што здаў паэму,
Яна была даволі важкай.
Што ж, здаць, вядома, не праблема,
Ды часта можа быць прамашка...
Здаваў з надзеяй маладою,
А выдаў — сам быў з барадою.

ЗМЕСТ

Николай Петрович Вершинин

**НЕ СОШЛИСЬ ХАРАКТЕРАМИ**

На белорусском языке

Рэдактар Хв. М. Чэрня. Мастак Б. А. Забораў. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар В. В. Шарамета.

ИБ № 197

АТ 21170. Здадзена ў набор 15/VII 1976 г. Падп. да друку 15/IX 1976 г. Тыраж 5000 экз. Фармат $70 \times 108^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 2,8. Ул.-выд. арк. 1,96. Зак. 391. Цана 23 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.

Вяршынін М.
В 37 Не сышліся характарамі. Сатыра і гумар. Мн., «Маст. літ.», 1977.
64 с. з іл.
Другі сатырычны зборнік Міколы Вяршыніна, інжынера Мінскага трактарнага завода, склалі байкі, вершаваныя фельетоны, гумарэскі і карацелькі. Вострым словам змагаецца аўтар з адмоўнымі з'явамі нашага жыцця, з яго носьбітамі — хабарнікамі, прыстасаванцамі, п'яніцамі, гультаямі...

В $\frac{70403\text{-}011}{М302(05)\text{-}77}$ 40-77 Бел 2